

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№4(80)

20 сакавіка 2012 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# 25 САКАВІКА — ДЗЕНЬ ВОЛІ

***25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэты гістарычны дзень беларусы пацвердзілі свае права на самастойную дзяржаву, створаную народам і для народа.***

Лозунг БНР упершыню прагучаў у 1917 годзе. Незалежніцкія настроі ў беларускім грамадстве былі выкліканы палітыкай Часовага ураду Расіі, які не хацеў надаць Беларусі статуса аўтаноміі ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Незалежніцкія тэндэнцыі ўзмацніліся пасля разгону бальшавікамі Усебеларускага з'езду.

Ва ўмовах, калі паводле Брэсцкага міру беларускія землі перадаваліся Германіі, дзеячы беларускага нацыянальнага руху прапанавалі не спадзявацца на Расію, а абвясціць поўную незалежнасць Беларусі.

Выканкам Рады Усебеларускага з'езду 21 лютага 1918 звярнуўся да народа Беларусі з Першай Устаўной граматай, у якой аб'явіў сябе ўладай у Беларусі. Часовым кіруючым органам стаў створаны Народны сакратарыят. 9 сакавіка 1918 была прынята Другая Устаўная грамата, у якой Беларусь была аб'яўлена народнай рэспублікай. У межах Беларусі былі абвешчаны свабоды: слова, друку, сходаў, забастовак, сумлення, недатыкальнасць асобы і жылля, раўнапраўе моў усіх нацыянальнасцяў Беларусі.

Рада БНР на пасяджэнні ў ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 года прыняла Трэцюю Устаўную грамату, у якой абвясціла незалежнасці Беларусі. Такім чынам, 25 сакавіка 1918 г. БНР абвяшчалася «незалежнай і вольнай дзяржавай». Пачалася арганізацыя галоўных прыкмет дзяржаўнасці — ствараліся органы мясцовай улады, войска, фінансы, сістэма адукацыі. Пачалі наладжвацца дыпламатычныя сувязі з іншымі краінамі. Фактычна або юрыдычна БНР як незалежную дзяржаву ў 1918-20 гг. прызналі Украіна, Літва, Латвія, Эстонія, Чэхаславакія, Германія, Балгарыя, Фінляндыя, Турцыя і інш.








Але далейшае развіццё Беларускай Народнай Рэспублікі было гвалтоўна спынена камуністамі. Як вядома Беларусь стала часткай Савецкага Саюза, у складзе якога была да 1991 года.

У памяць аб тых гістарычных падзеях Дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі – 25 сакавіка - святкуецца свядомымі беларусамі як Дзень Волі.



# САПРАЎДНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ СІМВАЛЫ

***«Пагоні» больш як 700 гадоў, гэта сапраўдны гістарычны сімвал нашага народу.***

Сяргей МІКУЛЕВІЧ, Наша Ніва

Герб «Пагоня» — ваяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі — вядомы ў Беларусі з глыбокай старажытнасці. У якасці дзяржаўнага герба Княства Літоўскага, старажытнай беларускай дзяржавы, яе пачаў выкарыстоўваць вялікі князь Віцень у канцы XIII стагоддзя. «Віцень пачаў княжыць над Літвою, устанавіў сабе герб і ўсяму княству Літоўскаму пячатку: рыцар збройны на кані з мячом, які цяпер называюць «Пагоня», — піша Густынаўскі летапіс.

Чаму «Пагоня»? Так называўся высакародны звычай, пашыраны ў нашых землях. У выпадку раптоўнага налёту ворагаў — вось наляцелі чужынцы, схапілі каштоўныя рэчы і дзяцей у палон — усе мужчыны, якія маглі трымаць зброю, сядалі на коней і пераследавалі захопнікаў, каб вызваліць забраных суайчыннікаў.

У часы вялікага князя Ягайлы (XIV ст.) на шчыце «Пагоні» з'явіўся шасціканцовы крыж — знак венгерскіх каралёў. Адбылося гэта пасля таго, як вялікі князь ажаніўся з Ядзвігай, польскай каралеўнай венгерскага паходжання. Знак той нагадваў здаўна вядомы нашым продкам Ярылаў крыж — сімвал бога сонца і ўрадлівасці.

Царква надала «Пагоні» іншае значэнне: святары былі схільны лічыць яе выявай святога Юр'я, нябеснага апекуна Беларусі.

Выявай «Пагоні» ўпрыгожаныя ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі «Літоўскай Метрыкі» і «Статутаў». «Пагоня» была на сцягах беларускалітоўскага войска ва ўсіх вырашальных бітвах тых часоў — ад Грунвальда да Оршы.

Пасля Люблінскай уніі «Пагоня» нароўні з польскім белым арлом змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу.

Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі, калі Беларусь трапіла пад уладу Расіі, «Пагоня» засталася гербам беларускіх губерняў. Яна трапіла на значкі расійскіх войскаў, размешчаных у Беларусі (напрыклад, Гродзенскага гусарскага), і нават на герб Расійскай імперыі.

Пячатку з «Пагоняй» меў і Кастусь Каліноўскі — кіраўнік паўстання 1863 года.

У пачатку XX стагоддзя Максім Багдановіч прысвяціў старажытнаму беларускаму гербу пранікнёны патрыятычны верш:






Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць…
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

У 1918-м «Пагоня» стала дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі — першай незалежнай беларускай дзяржавы. Калі ў канцы 1980-х разгарнулася барацьба за незалежнасць Беларусі, «Пагоня» з'явілася каля лагатыпаў падпольных улётак і першых незалежных газет. Харугвы з ёй неслі на чале шэсцяў. З'явіліся новыя карціны па яе матывах і песні пра яе.

З аднаўленнем незалежнасці ў 1991-м «Пагоня» зноў набыла дзяржаўны статус. Выдатныя мастакі Яўген Кулік, Уладзімір Крукоўскі і Леў Талбузін выпрацавалі для яе новы канон. Яны надалі шасціканцоваму крыжу на шчыце выгляд крыжа Еўфрасінні Полацкай, святой заступніцы Беларусі. На «Пагоні» прысягала беларускае войска. Яна ўпрыгожвала тэкст канстытуцыі і трыбуну, на якой прысягаў прэзідэнт.

Аднак у 1995-м Аляксандр Лукашэнка, каб атрымаць падтрымку і грошы Расіі, вырашыў узяць курс на русіфікацыю. У атмасферы тэрору быў абвешчаны «рэферэндум». Сярод пытанняў былі змена дзяржаўнай сімволікі і ўвядзенне расійскай мовы ў якасці дзяржаўнай. Каб матываваць гэтую змену, прапаганда карысталася беспардоннымі фальсіфікацыямі. Рэжысёр Юрый Азаронак зняў фільм «Дзеці хлусні», у якім даводзіў, што «Пагоня» і бел-чырвонабелы сцяг... фашысцкія, на той падставе, што беларусы іх выкарыстоўвалі ў часы нямецкай акупацыі. Пра тое, што «Пагоня» стагоддзямі існавала перад той вайной, фільм змоўчваў. Немцы, шведы, украінцы, літоўцы — усе трымаюцца сваёй нацыянальнай сімволікі і будуюць нацыянальныя дзяржавы. Ва ўсёй Еўропе толькі Беларусь пагналася за халяўнымі расійскімі грашыма. Гэта, бадай, самая ганебная пагоня ў беларуская гісторыі.

Значэнне «Пагоні» такое, што сцерці яе з памяці не ўдалося. Нашу нацыянальную сімволіку паважаюць усе сапраўдныя патрыёты Беларусі.





# ДОВЕРИЛИ САМОЕ ДОРОГОЕ

Тимур НЕЗВАНОВ

***Генеральным директором Белорусской калийной компании назначен Валерий Иванов, ранее занимавший должность заместителя премьер-министра Беларуси. Александр Лукашенко утвердил это назначение, сообщили 28 февраля в Администрации президента.***

***Как известно, в состав ЗАО «Белорусская калийная компания» входит ведущее и одно из самых дорогих предприятий страны — «Беларуськалий». Это отметил и Лукашенко, подчеркнувший, что БКК приносит в казну больше всего валюты.***

Но данное назначение интересует нас и по другой причине. В последние годы стремительный карьерный взлёт Валерия Иванова привлекает к себе всё больше внимания. В кратчайшие сроки уроженец Климовичского района достиг таких номенклатурных высот, что его поневоле можно назвать баловнем судьбы. Бывший зоотехник и председатель колхоза вошёл в ближний круг президента и уже готов занимать там ключевые посты. Впрочем, как раз об этом и свидетельствует утверждение на должность главы БКК.

Считается, что Иванова заметили тогда, когда он пришёл в легендарный «Рассвет» в Кировском районе, где сменил арестованного дважды Героя Соцтруда Василия Старовойтова. А уже после этого он поруководил всем Кировским районом, затем — Шкловским, попал в парламент и карьера как таковая состоялась. Что предстоит дальше нашему земляку, не знает никто. Сейчас от него ждут только одного, а именно миллионов и миллиардов валютных поступлений в прохудившийся государственный бюджет. От «Беларуськалия» и его нового руководителя требуют заработать максимально больше валюты. Поставлена задача добиться в текущем году экспорта товаров и услуг более чем на 5 миллиардов долларов. В условиях нарастающего ухудшения отношений с Евросоюзом такое требование лучше назвать сверхзадачей. Без обиняков можно сказать, что от результативности работы Валерия Иванова будет зависеть судьба последнего авторитарного режима в Европе. Думается, что уже ближайшее время покажет, ошибся или угадал Александр Лукашенко с этим, лично важным для него, кадровым назначением.



***КРАТКАЯ БИОГРАФИЯ:**

ИВАНОВ ВАЛЕРИЙ НИКОЛАЕВИЧ — Родился 27 июля 1955 г. в деревне Попехинка Климовичского района. В 1972 г. поступил в Климовичский техникум, откуда был призван в армию. В 1983 г. окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию по специальности «Зоотехния», в 1992 — БГУ по специальности «Политология», в 2006 — Академию управления по специальности «Управление предприятиями АПК». Трудовую деятельность начал в 1977 г. в Круглянском районе. Работал зоотехником, председателем колхоза, в 1987 – 1997 гг. — на руководящих должностях в Круглянском райисполкоме. С 1997 по 2002 — председатель знаменитого колхоза «Рассвет» в Кировском районе. С 2002 по 2004 — председатель Кировского райисполкома. С марта 2004 по октябрь 2008 — председатель Шкловского райисполкома. С октября 2008 — депутат парламента, заместитель председателя Палаты представителей. С 25 мая 2010 года — первый заместитель председателя Минского облисполкома. С декабря 2010 года — заместитель премьер-министра Беларуси. В настоящее время возглавляет ЗАО «Белорусская калийная компания».

# ДОЛГ КАЖДОГО ГРАЖДАНИНА БЕЛАРУСИ ВЫРОС НА 600 ДОЛЛАРОВ

Несмотря на некоторую стабилизацию на финансовом рынке страны к концу 2011 года, основные проблемы экономики не решены — так говорят зарубежные эксперты (МВФ и Антикризисный фонд ЕврАзЭС). Не отрицают этого и представители Нацбанка РБ.

Валовый внешний долг Беларуси на 1 января 2012 года составил более 30 миллиардов долларов, увеличившись за прошлый год на 5 с половиной миллиардов.

На душу населения в итоге приходится почти 3595 долларов валового внешнего долга. Увеличение внешнего долга только за последний год составило почти 600 долларов на каждого гражданина Беларуси. Таким вот ростом долгового бремени обернулось для простых белорусов стремление Лукашенко увеличить перед выборами зарплаты без проведения серьёзных экономических реформ.

# СТОИМОСТЬ ОБУЧЕНИЯ В НЕКОТОРЫХ ВУЗАХ МОЖЕТ ВЫРАСТИ В ДВА РАЗА

Евгений ВАРАКСА, Onliner.by

***Министерство образования планирует с нового учебного года в два раза повысить оплату на тех специальностях, где наблюдается переизбыток специалистов и нет соответствующих заявок от предприятий. Об этом в рамках прямой линии, организованной газетой «Рэспубліка», рассказал Onliner.by министр образования Беларуси Сергей Маскевич.***

«Планируется, что на специальности, где у нас слишком много потом невостребованных выпускников, повысится стоимость обучения. Сейчас государство на каждый миллион рублей, который платит студент-платник, выделяет вузам дополнительный миллион», — рассказал министр. Именно эти дотации собираются убрать. Стоимость при этом может вырасти с нынешних 6—12 млн. до 12—24 млн. рублей.

«По моему мнению, это в основном юридические и экономические специальности, некоторые из которых сейчас не востребованы», — подчеркнул Маскевич. При этом он отметил, что повышение стоимости обучения коснется только тех, кто станет студентом в новом учебном году.



# ФАКТЫ И НИЧЕГО КРОМЕ ФАКТОВ

## *10 фактов из жизни Климовичского района в 2011 году*

***Общеизвестно выражение о том, что факты — упрямая вещь. В наше время один оригинальный мыслитель по-своему обыграл эту фразу: «Факты — упрямая вещь, но статистика гораздо сговорчивее». Как говорится, в этом что-то есть. Попробуем показать это на примере недавнего Отчёта о работе Климовичского райисполкома в 2011 году.***

Ежегодно Климовичский райисполком и Климовичский районный Совет депутатов готовят отчёты о своей работе за истекший период. В начале марта был обнародован очередной такой документ (газета «Родная Ніва» от 7.03.2012). Мы хотим выделить отдельные факты, прозвучавшие в перечислении итогов минувшего года. Но вначале вернёмся ещё на год назад. В тогдашнем Отчёте можно прочитать: «2011 год станет важной вехой в экономическом развитии Беларуси, в дальнейшем повышении благосостояния населения, реализации главной стратегической задачи нового пятилетия — войти в число первых 50 стран мира с наивысшим индексом развития человеческого потенциала». Мы специально процитировали этот отрывок, ведь не все наши читатели знают или хотя бы догадываются об этой «главной стратегической задаче нового пятилетия». Ну а теперь перейдём к фактам, которые покажут, сколько нам осталось до вхождения в число первых 50 стран мира.




* Начнём с хорошего. Факт 1 — Согласно Итогам-2011, экономические показатели Климовичского района на протяжении года улучшились. Это и солидный рост прибыли, и возросший уровень рентабельности, и повышение качества жизни населения. Но оптимистическую картину портит то, что по итогам работы за 2011 год из 24 основных целевых параметров прогноза социально-экономического развития района обеспечены только 7 показателей.

* Факт 2 — Рост объёмов производства сопровождается снижением реализации произведенных товаров. В конце года Климовичи были на первом месте в области по количеству продукции, оставшейся на складах предприятий. В Отчёте об этом упоминается достаточно скромно: «по сравнению с 2010 годом объём экспорта товаров снижен».

* Факт 3 — Привлечение инвесторов оставляет желать лучшего. Говоря иначе, никто не спешит вкладывать средства в развитие нашей экономики. Не вызывает интереса и специфическая белорусская приватизация. Как сообщается в Отчёте: «в 2011 году подлежали продаже на аукционе акции ОАО «Макеевичи» на сумму 200 миллионов рублей, однако два проведённых аукциона объявлены несостоявшимися». Неудивительно, что за год объём инвестиций в предприятия района составил 66% от годового задания. Из них две трети вложений представляют собой банковские кредиты. То есть, по-прежнему продолжаем производить и жить в долг.

* Факт 4 — Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата в Климовичском районе составила в январе-декабре 2011 года — 1510,1 тыс. рублей. Напомним для сравнения, что в 2006 году среднемесячная заработная плата в районе достигла 452 тыс. рублей, что по тогдашнему курсу было равнозначно 243 долларам. Отсюда несложно сделать вывод, что сейчас мы опустились на несколько лет назад.

* Факт 5 — В течение 2011 года в управление по труду, занятости и социальной защите райисполкома обратились за содействием в трудоустройстве 1495 граждан, из них 1058 зарегистрированы в качестве безработных. Показательно, что в 2010 году в качестве безработных было зарегистрировано 1386 человек. Уменьшение регистрируемых безработных можно трактовать двояко. Либо у нас всем хватает работы и исчезает безработица, либо граждане уже не надеются на государство и предпочитают искать работу самостоятельно.

* Факт 6 — Государственную адресную социальную помощь в прошедшем году получили в районе 1389 человек. В 2010 году — 1889 человек. Этот факт вполне вписывается в сделанный выше вывод о недоверии людей к государству, его возможностям и желанию помочь.

* Факт 7 — По состоянию на 1 января 2012 года на учёте нуждающихся в улучшении жилищных условий в Климовичах находилось 970 человек. Это более чем много для нашего района, тем более в нынешних неблагоприятных условиях, когда темпы строительства упали практически в четыре раза.

* Факт 8 — Официально в 2011 году произошло снижение совершенных в районе преступлений. Всего зарегистрировано 350 преступлений, что на 28 преступлений меньше, чем в 2010 году. Всякий волен верить или не верить этим данным. Отметим лишь, что даже по официальным сведениям раскрываемость преступлений в районе снизилась. Также возросло количество краж всех видов собственности (со 153 до 190), почти в два раза выросло количество преступлений, совершенных несовершеннолетними.

* Факт 9 — Нельзя не заметить, что в минувшем году серьёзно снизилось количество обращений граждан в Климовичский райисполком. Сообщается, что за 2011 год в райисполком поступило 297 обращений, что на 143 обращения меньше, чем в 2010 году. Получается, что проблемы в основном решены и жаловаться не на что? Чтобы представить мизерность озвученных цифр, напомним, что, к примеру, в 2005 году поступило 763 обращения. Или назовём ещё один показательный факт — за весь 2011 год в книгу замечаний и предложений райисполкома была внесена всего одна запись (в 2010 году — 10 записей).

* Факт 10 — В качестве завершения констатируем, что власти лучше нас представляют реальное положение дел в районе. Поэтому они так усердно налегают на идеологическую обработку населения, уверяя его, что выполнение той или иной «главной стратегической задачи» уже не за горами. Настойчивая пропаганда якобы успехов и достижений усиливается с каждым годом. В 2009 году в Климовичском районе всеми формами информационно-пропагандистской деятельности было охвачено 18 тысяч человек, в 2010 — более 19 тысяч, в 2011 — уже свыше 20 тысяч. Но даже правильно понятые официальные факты могут приблизить наше понимание к правде. Было бы желание разобраться в том, что с нами происходит и какое будущее нас ожидает.





# АГУЛЬНАНАРОДНУЮ ЎЛАСНАСЦЬ ПРЫВАТЫЗУЮЦЬ,

## *але ільготнай прыватызацыі не будзе*

**Міхась ПЯТРОЎ**

***90-я гады мінулага стагоддзя ва ўсіх былых рэспубліках Савецкага Саюза прайшлі пад знакам прыватызацыі. Ва ўсіх, але не ў Беларусі. Дзесьці дзялілі заводы і станавіліся алігархамі, а беларусы толькі назіралі за ўсім гэтым збоку. Народ быў упэўнены, што бацька не дапусціць такога разгулу, як у Расіі і ва Украіне. Няма ў нас прыватызацыі і не трэба, Аляксандру Рыгоравічу лепей ведаць.***

Аляксандр Рыгоравіч не толькі ведаў народныя настроі, але і адкрыта спрыяў ім: "Палітыка прыватызацыі вызначана, і, пакуль я прэзідэнт, я ніколі не пайду на тое, каб здзяйсняць прыватызацыю так, як гэта было ў нашых суседзей". І ў гэтым ён быў жорсткі і непахісны. Часам складвалася ўражанне, што Лукашэнка быў увогуле супраць пераходу дзяржаўнай уласнасці да любых іншых уладальнікаў. Эксперты адзначаюць, "што ў Беларусі з 1998 года паўнамоцтвы практычна па ўсіх прыватызацыйных здзелках, а таксама па адчужэнню ўласнасці сканцэнтраваны ў руках прэзідэнта. Усе здзелкі з уласнасцю, кошт якой перавышае 10 тыс. базавых велічынь, належаць абавязковаму ўзгадненню з прэзідэнтам". Фактычна гэта прывяло да таго, што рэальнага раздзяржаўлення ў Беларусі так і не адбылося.

Але час, няхай і марудна, усе ж змяняецца. Зараз краіне патрэбны грошы, а кажучы дакладней, вельмі і вельмі вялікія грошы. Казна пусцее, эканоміка не зарабляе, беларускія тавары не карыстаюцца попытам. Дзе ж узяць сродкі, каб заткнуць фінансавыя дзіркі ў прадзіраваным бюджэце? Урэшце рэшт стала зразумела, што без прыватызацыі не абысціся. Урад распрацаваў План пераўтварэння рэспубліканскіх унітарных прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы на 2011 - 2013 гады (зацверджаны Пастановай Савета Міністраў № 348 ад 21.03.2011 г.). У пераліку 134 прадпрыемствы і арганізацыі, якія збіраюцца акцыяніраваць у бліжэйшыя тры гады. Гэта Мінскі трактарны завод, Гродзенскі завод медпрэпаратаў, Гомельскі завод сельгасмашынабудавання, Жлобінскі металургічны завод і многія іншыя вядомыя ў краіне прадпрыемствы.

У Дзяржаўным камітэце па маемасці тлумачаць, чаму ва Ўрадзе прынялі рашэнне пачаць такое маштабнае акцыяніраванне: "Асноўнымі мэтамі пераўтварэння ў адкрытыя акцыянерныя таварыствы з'яўляецца павышэнне ўзроўня развіцця краіны за кошт прыцягнення прамых інвестыцый (замежных і айчынных)". Гэта значыць, што пасля правядзення акцыяніравання ўсе жадаючыя могуць набываць акцыі і папаўняць нашу казну. Здаецца, усё проста, але звернем увагу на некалькі нюансаў.

Па-першае, кіраўнік Дзяржкаммаемасці Георгій Кузняцоў прапанаваў адмяніць ільготную прадажу акцый работнікам прадпрыемстваў. У хуткім часе быў надрукаваны адпаведны Указ прэзідэнта. Раней члены працоўных калектываў мелі права набываць акцыі прадпрыемстваў з 20%-й зніжкай. Зараз ільготная прыватызацыя скончылася, мабыць, на ўсіх агульнанароднай маемасці не хапае. Заўважым, што гэтая мера самым непасрэдным чынам адаб'ецца на інтарэсах працоўных нашага рэгіёна. Справа ў тым, што ва Ўрадавым Плане пераўтварэння РУП у ААТ пералічваецца шэраг буйнейшых прадпрыемстваў Магілёўскай вобласці. Так, пад №23 знаходзіцца Магілеўскі завод ліфтавога машынабудавання, №27 — Бабруйскі гідролізны завод, №31 — Касцюковіцкі "Беларускі цэментны завод", №34 — Крычаўцэментнашыфер, №113 — Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод.

Другой адметнай асаблівасцю запозненнай прыватызацыі з'яўляецца тое, што яе правядзення найбольш зачакаліся не ў нашай краіне, а ў суседняй Расіі. Не выпадкова менавіта адтуль Лукашэнка рэгулярна атрымлівае дастаткова выразныя сігналы распачынаць ўсебеларускі аўкцыён. Напрыклад, у мінулым годзе, па звестках БелаПАН, намеснік міністра фінансаў РФ Сяргей Старчак параіў Беларусі больш энергічна прыцягваць даходы праз продаж дзяржкампаній: "Праблему дэфіцыта бягучага рахунку можна вырашаць і з дапамогай прыватызацыі. Я так разумею, што рэспубліка гатова пайсці па шляху зніжэння долі дзяржавы ў эканоміцы". Парада слушная, дрэнна толькі, што айчынныя бізнесмены трапяць на распродаж "долі" разам з расійскімі алігархамі. На жаль, эканамічная сітуацыя не пакідае іншага выбару, таму клімаўчанам з лікёра-гарэлачнага і крычаўлянам з цэмзавода трэба ўжо сягоння задумацца аб перспектывах бліжэйшай будучыні.

# ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ ДЗЕНЬ САКАВІКА

**Янка ЗОЛАК**

*У прыгожы ясны дзень вясновы —*
*Дваццаць пяты дзень сакавіка, —*
*Тоўсты лёд, бы ржавыя аковы,*
*Разарвала бурная рака.*
*Застагналі з енкам крыгі лёду*
*У струменях вольнае ракі...*
*Зазвінелі радасцю народу*
*У блакітных высях жаўрукі.*

*Беларускі люд, што быў закуты,*
*Зрабаваны сілай чужака, —*
*Разарваў свае няволі путы*
*Ў дваццаць пяты дзень сакавіка.*

*Засвяціла сонца й беларусу...*
*Толькі-б жыць і цешыцца вясной,*
*Ды навокал носьбіты прымусу*
*Зноў вілі нам церневы вянок.*

*Не судзіў нам лёс... І край гаротны*
*Ні вясны, ні волі не ўтрымаў.*
*Зноў прыйшлі к нам хваляю зваротнай*
*Чужакі, няволя і зіма.*

*Цісне сівер... Ды рака пад лёдам*
*Набірае сілаў да вясны.*
*Не зламана воля ў народа*
*Скінуць з плеч прымусу кайданы.*

*Вернецца яшчэ той дзень вясновы —*
*Дваццаць пяты дзень сакавіка!*
*Зноў няволі нашае аковы*
*Разарве народная рака.*



# НА СЕЛЕ ИСЧЕЗАЮТ ФАПЫ

**Михаил ПЕТРОВ**

***Последние десять лет на селе массово закрываются ФАПы (фельдшерско-акушерские пункты). Если в 2000 году их насчитывалось 2848, то в 2009 году уже 2425. А ведь это происходило не в самые тяжелые времена для экономики страны. Что тогда говорить о положении во время кризиса.***

Несколько лет назад, в 2005 году объяснить закрытие медпунктов в сельской местности попытался лично Александр Лукашенко. Но его слова были далеки от оценки происходящего и больше напоминали похвальбу: «Сельчанин должен получить медицинское обслуживание не хуже городских жителей. И главное — мы можем это обеспечить. Запросто это можем сделать сегодня» (газета «Советская Белоруссия» - 31.5.2005).

Стоит ли удивляться, что процесс закрытия ФАПов продолжался и не заканчивается до сих пор. Например, раньше в Могилевской области было 450 фельдшерско-акушерских пунктов, а в Климовичском районе — 27. Перед президентскими выборами 2010 года в области насчитывалось уже 364 ФАПа, а в Климовичском районе — 19. И вот прошёл всего год после выборов, когда нам опять обещали «запросто» сделать много полезного. За это время в Могилевской области стало на 12 ФАПов меньше. Получается, что каждый месяц на селе закрывался один медицинский пункт.

# ПРАВІЛЫ ДАРОЖНАГА РУХУ ПА-БЕЛАРУСКУ

***Па інфармацыі Радыё Свабода, выйшаў з друку першы ў гісторыі краіны звод правілаў дарожнага руху па-беларуску. Яго падрыхтавала Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***

Гэта першае выданне Правілаў дарожнага руху Рэспублікі Беларусь на беларускай мове, якое дапаможа вывучаць ПДР і здаваць на дзяржаўнай беларускай мове іспыты на атрыманне правоў кіроўцы.

У прадмове да выдання першы намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім зазначае, што да іх неаднаразова звярталіся грамадзяне Беларусі са скаргамі на адсутнасць ў аўташколах як Правілаў дарожнага руху, так і дапаможных матэрыялаў па іх вывучэнні выдадзеных па-беларуску.

ТБМ у сваю чаргу цягам пяці гадоў шмат разоў звярталася да ўладаў Беларусі, а таксама да Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь з просьбай зацвердзіць і выдаць афіцыйны беларускамоўны варыянт правілаў. Аднак нягледзячы на пэўныя абяцанні, сітуацыя ніяк не вырашалася.

Таму ТБМ ўзяло ініцыятыву ў свае рукі. Пераклалі Правілы сябры ТБМ з Інстытуту мовы і літаратуры НАН Беларусі, а таксама Святлана і Юрась Гецэвічы. Патрэбныя кансультацыі яны атрымалі ад супрацоўнікаў ДАІ МУС Рэспублікі Беларусь.

Правілы дарожнага руху па-беларуску пабачылі свет, дзякуючы індывідуальнаму прадпрымальніку Уладзімеру Сіўчыкаву.

Варта дадаць, што гэта даведачнае выданне, афіцыйная працэдура зацвярджэння яго не зробленая адпаведнымі дзяржаўнымі органамі.

## У ТЭМУ:

## ЯК Я АТРЫМАЎ ПАСВЕДЧАННЕ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**Лявон МАРОЗАЎ**

Мне, як маладому беларускамоўнаму юрысту-міжнародніку, можна шмат казаць пра артыкул 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, згодна якому "дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы". Ды і прыкладаў прыніжэння роднай мовы можна прывесці зашмат, але зараз хачу распавесці пра добры выпадак, які адбыўся са мной на мінулым тыдні.




У гэтым годзе для мяне паўстала неабходнасць замены вадзіцельскага пасведчання на новы дакумент. Як вядома ў горадзе Клімавічы гэта зрабіць немагчыма і трэба звяртацца ў Міжраённы рэгістрацыйна-іспытны аддзел Дзяржаўнай інспекцыі бяспекі дарожнага руху. Аддзел месціцца ў суседнім раёне ў Касцюковічах, а сфера ягонай дзейнасці распаўсюджваецца таксама і на наш горад.

Было вельмі дзіўна і цікава назіраць за рэакцыяй спачатку супрацоўніцы на прыёме дакументаў, а потым інспектара ДАІ на маё жаданне атрымаць вадзіцельскае пасведчанне на беларускай мове. Адзначу, што паставіліся яны да гэтага вельмі спакойна і з паразуменнем. Па размовах, якія было чуваць у калідоры пакуль я чакаў сваёй чаргі, у аддзеле гэта першы выпадак такой "дзіўнай" просьбы. Праз хвілін дваццаць, пасля таго як мяне сфатаграфавалі, інспектар ДАІ ветліва запрасіў мяне ў кабінет і прапанаваў праверыць ці правільна напісаны мае ініцыялы. Усё было напісана дакладна і яшчэ праз дзесяць хвілін мне было выдадзена новае вадзіцельскае беларускамоўнае пасведчанне. Шчыра казаць, мне як грамадзяніну Беларусі было вельмі прыемна атрымаць менавіта такое пасведчанне. Таксама хачу асобна падзякаваць за належнае выкананне працы і службовых абавязкаў інспектара ДАІ.





# ШКОЛА ВЯДУЧЫХ: МОЛАДЗЬ "ЗАПАЛЬВАЕ"!

Вольга СЕМЧАНКА

***У Горках на базе Палаца культуры Беларускай дзяржаўнай сельгасакадэміі прайшлі чарговыя заняткі абласной школы вядучых маладзёжных дыскатэчных мерапрыемстваў на тэму "Галасы маладых — за здаровы лад жыцця".***

У занятках прынялі ўдзел дзі-джэі, эм-сі і спецыялісты па дасугавай дзейнасці раённых метадычных служб Магілёўшчыны. Праводзілі заняткі супрацоўнікі Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра НТ і КАР і Палаца культуры Беларускай дзяржаўнай сельгасакадэміі, а таксама ўдзельнікі клуба "DKDANCE" Палаца культуры БДСГА. Іх парады пачынаючым вядучым тычыліся не толькі змястоўнага, але і тэхнічнага боку правядзення дыскатэк для моладзі.

Вопытам работы дыскаклубаў вобласці па арганізацыі і правядзенні беларускамоўных дыскатэк для падлеткаў і моладзі падзялілася вядучы метадыст Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра С.П. Сарока. У гэтым ёй дапамагалі кіраўнікі дыскаклубаў вобласці, дзі-джэі і эм-сі. Былі прадэманстраваны відэаролікі – візіткі дыскаклубаў вобласці.

Падчас практычных заняткаў тэхнік-радыст Палаца культуры БДСГА С.У. Патупчык і дзі-джэй дыскатэкі "DKDANCE" А.У. Кузняцоў падзяліліся сакрэтамі працы з гукаўзмацняльнай апаратурай, працы ў канцэртным рэжыме з фанаграмай "мінус", жывым вакалам і інструментамі. А.В. Кузняцоў разам з тэхнікам па святле і гуку Палаца культуры БДСГА А.В. Макеевым прадэманстравалі магчымасці выкарыстання каляровых і відэаэфектаў на культурна-масавых мерапрыемствах.

Завяршыўся першы дзень заняткаў акадэмічным конкурсам дыскатэчных праграм сярод факультэтаў БДСГА. Свае дыска-праграмы прэзентавалі каманды 9 факультэтаў акадэміі. Па-за конкурсам выступалі са сваёй дыска-праграмай удзельнікі аматарскага аб'яднання "DKDANCE", якія падарылі ўсім зарад бадзёрасці, дзякуючы сваёй энергіі, крэатыву, аптымізму.

Вядучы метадыст Магілёўскага абласнога метдычнага цэнтра С.П. Сарока зазначае, што дзейнасць абласной школы вядучых маладзёжных дыскатэчных мерапрыемстваў досыць плённая:

– Дзякуючы гэтым заняткам, шмат пачынаючых вядучых вобласці атрымалі карысныя веды і навыкі па правядзенні дыска-праграм. Яшчэ вельмі важна, што менавіта на занятках школы прадстаўнікі большасці раёнаў Магілёўшчыны навучыліся праводзіць беларускамоўныя дыскатэкі для моладзі і зараз робяць гэта на някепскім узроўні, многія дыска-праграмы досыць яркія і арыгінальныя. Склад удзельнікаў школы абнаўляецца, на заняткі прыходзіць новае маладое папаўненне, якое жадае вучыцца, пераймаць вопыт. І мне прыемна, калі былыя удзельнікі школы працягваюць працаваць у дадзеным накірунку — становяцца дзі-джэямі і эм-сі. Гэта якраз тое, чаго мы хочам — рыхтаваць адукаваных і крэатыўных вядучых, адданых сваёй справе і здольных паспяхова працаваць з моладдзю.

***P.S. Абласная школа вядучых маладзёжных дыскатэчных мерапрыемстваў дзейнічае ўжо трэці год. Яе арганізатарамі з'яўляюцца ўпраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкама і Магілёўскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы. Прыемна адзначыць, што Калімавічы таксама маюць намер далучыцца да папулярызацыі беларушчыны з дапамогай музыкі. Як паведаміў кіраўнік Клімавіцкага раённага Цэнтра культуры Сяргей Булянкоў, на занятках у Горках былі прадстаўнікі і нашага горада. Асаблівасці правядзення беларускамоўных дыскатэк вывучаў Алег Зайцаў. Як кажа спадар Булянкоў, у Клімавічах імкнуцца да таго, каб моладзь больш даведалася пра айчынных выканаўцаў папулярнай музыкі, у тым ліку на беларускай мове.***

# ПАМЕР КРЭДЫТУ Ў СІСТЭМЕ БУДЗБЕРАЖЭННЯЎ МАГЧЫМА ПАВЯЛІЧЫЦЬ

Сяргей КУРКАЧ, Звязда

У газету "ЗВЯЗДА" звярнуўся Пётр Цыганок, жыхар вёскі Галічы, Клімавіцкага раёну:

"Летась у студзені наша сям'я стала ўдзельнікам сістэмы будзберажэнняў. Тады мы з сынам адкрылі ў Клімавічах у Беларусбанку жыллёва-накапляльны рахунак на суму 40 мільёнаў рублёў. Быў заключаны дагавор з банкам, згодна з якім праз 19 месяцаў мы маглі тады атрымаць крэдыт памерам 160 мільёнаў рублёў. Потым адбылася дэвальвацыя, і цяпер за гэтыя 160 млн рублёў нейкага жылля ў сталіцы ўжо не купіш. Пад які працэнт нам ужо ў жніўні могуць даць крэдыт і ці магчыма нейкім чынам павялічыць суму крэдыту, бо цэны на жыллё істотна павялічыліся?"

Даведка рэдакцыі:

У аддзеле крэдытавання насельніцтва Беларусбанка, куды рэдакцыя звярнулася з гэтымі пытаннямі, нам адказалі наступнае. З моманту ажыццяўлення сістэмы будаўнічых зберажэнняў (2006 год) банк пастаянна аналізуе ступень задаволенасці ўдзельнікаў сістэмы гэтым фінансавым прадуктам і, зыходзячы са сваіх магчымасцяў, ідзе насустрач абгрунтаваным пажаданням.

Менавіта таму, у мэтах абароны інтарэсаў удзельнікаў сістэмы будаўнічых зберажэнняў, банкам 10 ліпеня 2011 года было прынята рашэнне, згодна з якім працэнтная стаўка па крэдыце ў сістэме будзберажэнняў роўная памеру сярэднеўзважанай стаўкі рэфінансавання за перыяд тэрміну дзеяння дагавора жыллёвых зберажэнняў, павялічаная на адзін працэнтны пункт. У сувязі з гэтым спецыялісты Беларусбанка адзначаюць, што стаўка па крэдытах, якія прадастаўляюцца цяпер у межах сістэмы будзберажэнняў, значна меншая за памер, які вызначаўся папярэднімі ўмовамі пры ўступленні грамадзян у сістэму будаўнічых зберажэнняў.

Што тычыцца павелічэння памеру крэдыту, то пры павелічэнні індэкса цэн у будаўніцтве па заяве ўдзельніка сістэмы будзберажэнняў пераличваецца памер гэтага крэдыту з прымяненнем індэкса цэн у будаўніцтве.





# ВТОРОЕ МЕСТО В МИРЕ?

**Кася ВИТУШЕВИЧ, Салідарнасць**

***С 12 марта Нацбанк ввёл в обращение банкноту достоинством в 200 тысяч рублей. Беларусь, похоже, стремится к первенству не только по уровню инфляции, но и по самому крупному номиналу купюры в мире — судя по открытым источникам, на сегодня мы вторые после Вьетнама.***







Похоже, банкнота самого крупного достоинства сегодня обращается во Вьетнаме. В этой стране есть купюры в 200 тысяч и 500 тысяч вьетнамских донгов. По состоянию на 12 марта 1 доллар США равен 20 тысячам 810 донгам.

Банкнота достоинством в 200 тысяч также была в обращении в Зимбабве. Пример Нацбанку Беларуси был подан Резервным банком этой страны в июле 2007 года. Тогда за банкноту в 200 тысяч зимбабвийских долларов по сообщению ВВС можно было купить 1 килограмм сахара. Но из-за стремительного темпа роста инфляции уже через год буханка хлеба в Зимбабве стоила 1.6 триллиона зимбабвийских долларов, поэтому номинал банкнот достиг невероятных величин. Весной 2009 года от национальной валюты в африканской стране решили отказаться.

***КСТАТИ:***

Комментируя по просьбе БелаПАН выпуск Нацбанком новой купюры в 200 тысяч рублей эксперты высказали мнение, что самая крупная из находящихся в обращении белорусская банкнота могла быть в 500 тысяч или даже в 1 миллион рублей.

Так бывший глава Нацбанка Станислав Богданкевич полагает, что самая крупная банкнота могла быть и в 1 миллион рублей. «Что такое самая крупная купюра в 25 долларов? Мне кажется, ее стоимость должна равняться 100 долларам, а это уже более 800 тысяч рублей», — подчеркнул он.

Можно вспомнить, что при Лукашенко уже были в обороте купюры с шестью нолями — номиналом в 1000000 и 5000000 рублей. Судя по всему, всё возвращается на круги своя.

## МОЗГ ЧЕЛОВЕКА — ПРАВДА И ЗАБЛУЖДЕНИЯ

Факт: Человек не может пощекотать сам себя. Дело в том, что человеческий мозг настроен на восприятие внешних раздражителей, чтобы не пропустить важные сигналы в потоке ощущений, вызванных действиями самого человека.

Миф: Человек может использовать только 10% своего мозга. Несмотря на расхожесть этого мнения, на самом деле человек каждодневно использует весь потенциал своего мозга. Различные исследования показали, что даже для выполнения простого задания активизируются практически все отделы головного мозга.

Факт: Зевота помогает мозгу проснуться. Зевание часто ассоциируется с недосыпом и скукой, но на самом деле это помогает человеку проснуться. Во время зевания расширяется дыхательное горло, которое позволяет легким получить больше кислорода, который затем перемещается в кровь, делая нас бодрее.

Миф: Слепые лучше слышат. Исследования показали, что слепые слышат слабые звуки не лучше всех остальных. Однако у незрячих лучше развита слуховая память. Они быстрее понимают смысл предложения на иностранном языке, а также лучше определяют

Факт: Компьютерные игры учат делать несколько дел одновременно. Игры заставляют людей рассредоточивать внимание и молниеносно реагировать на малейшие изменения ситуации.

Миф: Чем больше мозг, тем больше ума. Размер мозга не влияет на интеллектуальные способности человека. Тем не менее, по мнению исследователей, ум зависит от синапсов – контактов между нейронами. Количество синапсов растет в детский и юношеский период жизни человека и влияет на интеллект.

Факт: Мозг человека использует меньше энергии, чем лапочка в холодильнике. Сообщения между клетками головного мозга передаются при помощи электрических сигналов. При этом используется 12 ватт энергии – меньше, чем для работы лампочки в холодильнике.



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*